Цана 10 кап. (грош.)

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

Орган Часовага Упраўлення гор. Вільна

# ВІЛЕНСКАЯ ПРАЎДА

№ 15
8 кастрычніка 1939 г.
Нядзеля

**Працоўныя горада Вільно поўны рашымасці, на аснове Ленінска-Сталінскай нацыянальнай палітыкі, разам з совецкім народам будаваць новае шчаслівае жыццё.**

## НЯХАЙ ЖЫВЕ СТАЛІНСКАЯ ДРУЖБА НАРОДАЎ!

Масква, Крэмль.

## Таварышу СТАЛІНУ

Родны наш бацька, Іосіф Вісарыёнавіч!

Мы, працоўныя горада Вільно, свабоднай Заходняй Беларусі, сабраўшыся на агульна-гарадскі мітынг, сваё першае слова любві і адданасці звяртаем да Вас, родны наш бацька і правадыр, таварыш Сталін.

Вашымі асабістымі, таварыш Сталін, бацькоўскімі клопатамі, клопатамі ўсяго Совецкага Народа, працоўныя Заходняй Беларусі вызвалены непераможнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміяй ад цяжкага прыгнёту і кабалы польскіх паноў. Шчаслівым і радасным жыццём зажылі працоўныя Заходняй Беларусі. Для ўсіх нас, пасля 20-ці год цёмнай ночы, адкрыта шырокая дарога ў лучазарную будучыню. Мы будзем сагрэты сонцам Сталінскай Канстытуцыі.

Мы горача падтрымліваем прапанову Часовага Ўпраўлення горада Беластока аб скліканні Народнага Сабрання Заходняй Беларусі, якое скажа сваё рашаючае слова аб дзяржаўным устройстве. Мы ўпэўнены ў тым, што Народнае Сабранне, выражаючы волю народных мас, установіць на тэрыторыі Заходняй Беларусі сапраўды народную Ўладу.

**Мы цвёрда ўпэўнены ў тым, што Народнае Сабранне, выражаючы волю і жаданне народа, ажыццявіць нашу заветную мару — вырашыць пытанне аб далучэнні Заходняй Беларусі да Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, да вялікага Совецкага Саюза.**

Мы цалкам і поўнасцю падтрымліваем і горача адабраем прапанову аб канфіскацыі памешчыцкай зямлі. Зямля, палітая кроўю і потам працоўных сялян, павінна належаць сялянам.

Выражаючы волю народа, Народнае Сабранне павінна будзе, таксама, прыняць закон аб нацыяналізацыі банкаў і буйных прамысловых прадпрыемстваў.

Запэўняем Вас, таварыш Сталін, што сваімвыбраннікам у Народнае Сабранне мы дамо наказ:

— Галасуйце за далучэнне Заходняй Беларусі да Совецкай Беларусі, як роўнапраўнай часткі Вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Мы жадаем жыць і працаваць у брацкай сям'і народаў СССР пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі, і таму мы аднадушна галасуем за ўстанаўленне ў Заходняй Беларусі адзіна справядлівай народнай улады, улады Советаў.

Няхай жыве свабодная Заходняя Беларусь!

Няхай жыве доблесная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія і яе кіраўнік, першы маршал Совецкага Саюза таварыш Варашылаў!

Няхай жыве Сталінская дружба народаў!

Няхай жыве глава Совецкага Урада, лепшы друг і саратнік вялікага Сталіна, таварыш Молатаў!

Няхай жыве Ўсесаюзная Комуністычная партыя большэвікоў і яе Сталінскі Цэнтральны Камітэт.

Няхай жыве наш родны бацька, друг і настаўнік вялікі Сталін!

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

### агульнага гарадскога мітынга рабочых, працоўных і інтэлігенцыі г. Вільно.

Мы, рабочыя, працоўныя і інтэлігенцыя г. Вільно, сабраўшыся на агульны гарадскі мітынг, горача вітаем ініцыятыву Часовага Упраўлення г. Беластока аб скліканні Народнага Сабрання Заходняй Беларусі для вырашэння асноўных пытанняў дзяржаўнага ўстройства.

Польская памешчыцка-капіталістычная дзяржава, асnованая на бязлітаснай эксплаатацыі і грабяжы працоўных, на нацыянальным прыгнечанні, аказалася яўна нестаяцельнай, развалілася і фактычна перастала існаваць. Польскі Ўрад не змог арганізаваць абарону дзяржавы, кінуў народы, насяляючыя Польшчу, на волю лёсу і, захваціўшы золата, уцёк за граніцу. Совецкі Ўрад, выконваючы волю усяго магутнага совецкага народа пад кіраўніцтвам правадыра і друга працоўных усяго свету Вялікага **Сталіна**, дапамог народам Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны скінуць са сваіх плеч ярмо польскіх, паноў. Доблесная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія з чэсцю выканала ускладзеную на яе пачотную і гістарычную задачу і на сваіх баявых сцягах прынясла народам Заходняй Беларусі новае, свабоднае і шчаслівае жыццё.

Мы, рабочыя, працоўныя і інтэлігенцыя патрабуем устанавіць на тэрыторыі Заходняй Беларусі форму дзяржаўнай улады — улады сапраўды народнай.

У Народнае Собранне мы пашлём лепшых сваіх прадстаўнікоў, якім дамо цвёрды наказ ажыццявіць уваходжянне Заходняй Беларусі ў склад Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі і гэтым самым у Саюз ССР.

Мы патрабуем правядзення канфіскацыі памешчыцкіх зямель у карысць сялян, нацыяналізацыі банкаў і буйнай прамысловасці.

Мінуламу няма звароту. Мы поўны рашымасці, на аснове ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, разам з усім совецкім народам, разам з працоўнымі Совецкай Беларусі пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі будаваць новае, шчаслівае, светлае радаснае жыццё.

Мы заклікаем народы Заходняй Беларусі, усіх рабочых, сялян і інтэлігенцыю шчыльней згуртаваць рады ў барацьбе за гэтае радаснае, шчаслівае жыццё; даваць бязлітасны адпор усім і ўсякім ворагам народа.

Вышэй рэволюцыйную пільнасць, таварышы!

Няхай жыве вызвалены народ Заходняй Беларусі!

Няхай жыве ленінска-сталінская нацыянальная палітыка!

Няхай жыве Народнае Сабранне Заходняй Беларусі!

Няхай жыве несакрушальная моц вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік і магутная, непераможная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія!

Няхай жыве вялікі друг, настаўнік і правадыр працоўных усяго свету, таварыш Сталін!

## Усенародная радасць і лікаванне

Небывалым у гісторыі горада Вільно быў дзень 7 кастрычніка. Усенароднай урачыстасцю і лікаваннем напоўніліся ўчора яго вуліцы.

Упершыню ў гісторыі вызвалення ад пут нацыянальнага і соцыяльнага гнёту, працоўныя масы сталі пад чырвоныя сцягі і шчаслівыя і радасныя сабіраліся на агульнагарадскі мітынг. Яшчэ задоўга да мітынга каля камісарыятаў Рабочай Гвардыі строіліся калоны. Тут і дарослыя, і моладзь. Усе яны сёння свабодныя, поўнапраўныя.

...К 5 гадзінам на плошчу Лукішкі пачалі прыбываць стройныя калоны працоўных. Над калонамі высока палыхала безліч сцягаў, лозунгаў і транспарантаў.

Вось на плошчу к трыбуне падходзяць калоны 1 батальёна. „Няхай жыве непераможная Чырвоная Армія!“, „Установім Совецкую Ўладу на тэрыторыі Заходняй Беларусі“, „Дзякуй вялікаму таварышу Сталіну!“ — рэюць над калонамі лозунгі.

Няспынным патокам з усіх бакоў на ўрачыста ўпрыгожаную плошчу ўступаюць усё новыя і новыя калоны працоўных у чырвані лозунгаў і транспарантаў. Чырвоным морам калышуцца сцягі, высока над калонамі рэюць партрэты таварышоў: Сталіна, Молатава, Варашылава.

Далёка над лікуючай плошчай, над горадам разносяцца гукі баявых маршаў, совецкіх песень. Вось аркестр заіграў любімую песню совецкага народа „Если завтра война“ і калоны жыва падхапілі яе і паплыла гэта песня над старой Віліяй, над свабодным, радасным горадам.

Нябачнае і небывалае ў гісторыі старыннага горада ўсенароднае свята.

75 тысяч працоўных горада сабраліся ўчора на агульнагарадскі мітынг, каб выразіць сваю бязмежную ўдзячнасць совецкаму народу і гераічнай Чырвонай Арміі за аказаную брацкую дапамогу Заходняй Беларусі ў вызваленні ад векавога гнёту і парабашчэння польскімі панамі працоўных гарадоў і сёл. Яны сабраліся сюды для таго, каб выразіць сваё аднадушнае жаданне аб устанаўленні на тэрыторыі Заходняй Беларусі совецкай улады, далучыцца да Совецкай Соцыялістычнай Беларусі і стаць раўнапраўнымі грамадзянамі вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Урачыстая плошча бушавала радаснымі воклічамі. Ад глыбіні сэрца працоўныя славілі Чырвоную Армію і яе выпрабаванага любімага палкаводца Клімента Ефрэмавіча Варашылава. Са слязамі радасці на твары старыя пролетарыі пасылалі сардэчную падзяку роднаму таварышу Сталіну.

Агульнагарадскі мітынг адкрыў старшыня Часовага Ўпраўлення горада Вільно тав. Краскоў. У сваёй уступнай кароткай прамове тав. Краскоў расказаў, што гераічная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія з чэсцю выканала свой свяшчэнны доўг перад радзімай соцыялізма і вызваліла працоўных Заходняй Беларусі ад гнёту і праізвола польскіх паноў.

У той час, калі працоўным Заходняй Беларусі, нашым адзінакроўным братам-беларусам пагражала разарэнне і знішчэнне ў пажарышчы імперыялістычнай вайны — гаворыць тав. Краскоў,—Совецкі ўрад і ўвесь совецкі народ працягнуў абяздоленым і прыгнечаным народам Заходняй Беларусі магутную руку брацкай дапамогі. Чырвоная Армія выканала гэту задачу з чэсцю і доблесцю.

— Настаў час, калі народы Заходняй Беларусі павінны рашыць пытанне аб дзяржаўным устройстве, устанавіць уладу. Аб гэтым скажа сваё вескае слова прадстаўляючае Народнае Сабранне Заходняй Беларусі.

З мільёнаў сэрцаў працоўных нясецца аднадушнае жаданне з'яднацца з Совецкай Беларусіяй, устанавіць у Заходняй Беларусі Совецкую Ўладу.

— Жыць радасна, шчасліва і работаць пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі — заветная мара народаў Заходняй Беларусі. Бурнымі апладысментамі і воклічамі ў чэсць таварыша Сталіна пакрываюцца словы прамоўцы.

Затым на трыбуну адзін за адным узыходзілі рабочыя заводаў, фабрык, прадстаўнікі інтэлігенцыі. Яны горача дзякавалі Чырвоную Армію, славілі партыю Леніна-Сталіна, Совецкі Ўрад і таварыша Сталіна. І кожны раз плошча зноў з нарастаючай сілай агалашалася прывітальнымі воклічамі ў чэсць таварыша Сталіна.

З вялікім уздымам агульнагарадскі мітынг прыняў рэзалюцыю. Пад доўга незмаўкаючыя апладысменты і прывітальныя воклічы мітынг паслаў пісьмо таварышу Сталіну.

* * *

Вечарам, калі на вуліцах і ў дамох загарэўся электрычны свет, закончыўся агульнагарадскі мітынг. З аркестрамі і звонкімі совецкімі песнямі разыходзіліся лікуючыя працоўныя з плошчы.

Па вуліцы імені А. Міцкевіча веранішай цягнуліся калоны працоўных. Усенароднае лікаванне і ўрачыстасць не змаўкала. Па парадных вуліцах яшчэ доўга ішлі лікуючыя працоўныя, раздаваліся прывітальныя воклічы свабоднаму радаснаму жыццю.

Здаецца, што ўвесь народ вышаў на вуліцы. Так яно і ёсьць. Горад жыў і лікаваў за сваё шчасце, прынесенае ў Заходнюю Беларусь Чырвонай Арміяй.

Здавалася, што гэтаму народнаму шчасцю не будзе канца. Стары горад Вільно! Многа было ў ім парадных дзён і казённых свят. Але ніколі ён не бачыў такой усенароднай радасці і лікавання.

Свабодныя, упэўненыя ў заўтрашнім дні, працоўныя разыходзіліся дамоў. Па вуліцы з песнямі ішлі калоны з мітынга. Над шумным горадам, нібы ў чырвані крэмлеўскіх зорак, плыла песня:

...Страна моя, Москва моя,
ты самая любимая...

І тысячы людзей падхаплівалі яе і няслі далёка на акраіну горада. Гукі гэтай песні, здаецца, плывуць зараз па ўсёй свабоднай Заходняй Беларусі, над гарадамі і вёскамі.

А. Бур.

**Прамовы на мітынгу глядзіце на стр. 3.**



5 кастрычніка адбыўся агульнагорадскі сход Настаўнікаў.
На здымцы: агульны выгляд залы, дзе адбываўся сход.

Фото Дабравольскага.

